



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

4 ліпеня 2014 года №27 (1001)


## Віншуем з 70-годдзем вызвалення Беларусі!

НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Вілейскі гаспадарнік узначаліў Лагойшчыну

**ВІЛЕЙКА.** Аляксандр Лукашэнка 30 чэрвеня прызначыў старшынёй Лагойскага райвыканкама **Віктара Каляду**. Да прызначэння на новую пасаду Віктар Каляда ўзначальваў таварыства "Сцешыцы" – адну з самых буйных гаспадарак у Вілейскім раёне. Яму 36 год. У свой час стаў самым маладым кіраўніком гаспадаркі на Вілейшчыне.

### Мемарыял у гонар Першай сусветнай адкрыюць 1 жніўня

**СМАРГОНЬ.** Цырымонія стане адным з самых значных мерапрыемстваў у краіне, прысвечаных 100-годдзю пачатку вайны. Комплекс размешчаны на тэрыторыі 12 гектараў. У ім усталяваныя бронзавыя скульптуры, абуладкаваныя дарожкі, аўтастаянкі. Цяпер займаюцца добраўпарадкаваннем. Падчас адкрыцця пройдзе рэканструкцыя ваенных дзеянняў, паведамляе БелТА.

### Манахі-капуцыны пачастуюць капучына

**МЯДЗЕЛ.** На фэсце ў Будславе 4 і 5 ліпеня браты капуцыны традыцыйна пачастуюць пілігрымаў кавай капучына. Намёт пад назвай "У капуцына" размесціцца ў парку перад храмам.

Праграму ўрачыстасцяў ў Будславе чытайце на 5-й старонцы.

### П'яны муж паграажаў забіць жонку

**ВАЛОЖЫН.** 32-гадовы жыхар вёскі Няровы апоўначы 13 чэрвеня ў сваім доме паграджаў сваёй жонцы. 22-гадовую жанчыну ён хапаў рукамі за шыю і душыў. Паводле аператыўнай зводкі Упраўлення ўнутраных спраў Мінаблвыканкама, мужчына быў нецвярозы. 30 чэрвеня райаддзел Следчага камітэта ўзбудзіў крымінальную справу.

Алесь ВЫСОЦКІ, Зоя ХРУЦКАЯ.



# Канстанцін Капсунаў – вызваліцель Маладзечна




Фота Наталлі ТУР.

Канстанцін Капсунаў гартае свой фотаальбом. У ім захаваліся і ваенныя здымкі, на якіх сам Канстанцін Міхайлавіч называе сябе салдатам Швейкам, і гады вучобы ў ветэрынарнай акадэміі, і вось гэты здымак, які Канстанціну Міхайлавічу зрабілі да 40-годдзя Перамогі.

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанец Канстанцін Капсунаў, ветэран Вялікай Айчыннай, вызваліцель горада, у якім пасяліўся пасля вайны, распавёў "Рэгіянальнай газеце" пра тое, чым жыве сёння, і пра тыя сляды, што пакінула ў яго жыцці вайна.**

– Вы ж прыйшлі да мяне спытацца, як я вызваляў Маладзечна? А я не помню, – з парога пачынае Канстанцін Міхайлавіч.

– Мы ў той час праходзілі па 50 кіламетраў штодзень. Два дні ідзём, 100 кіламетраў праходзім, дзень адпачываем. Не было калі глядзець па баках. У Маладзечне наш батальён быў толькі сёмага ліпеня, а вызвалілі горад, як вы ведаеце, пятага. У памяці застаўся разбураны горад. Каб я тады ведаў, што пражыву ў Маладзечне ўсё жыццё, можа б, і запамінаў. А так, памятаю, што на месцы першай школы стаяў млын, а на вуліцы Савецкай быў дом, які, здаецца, ёсць і цяпер. А на месцы нядаўняга паста ДАІ танк стаяў разбіты, наш танк Т-34.

– **Тады, можа, пачнём з самага пачатку**? – прапаную свайму суразмоўцу.

– Ну калі спачатку, дык спачатку. Нарадзіўся я ў 1926 годзе, так што сёлета ўжо маю дзве васьмёркі. Мая маці, дачка бурмістра, выйшла замуж за каваля. Жылі мы ў Дуброўне, што ў Віцебскай вобласці.

– Калі пачалася вайна, – працягвае мой суразмоўца, – у вёску прыйшлі немцы, але мы побач з імі жылі нармальна, харошыя яны былі. А зімой 1943 года ў вёску прыйшлі іншыя немцы, у чорнай форме, з чорнымі павязкамі на рукаве. Злыя, крычалі ўвесь час. А мы з хлопцамі тады ў двары дровы пілавалі. Ну, і пытаемся ў свайго немца, хто гэта такія, чаго яны злуюцца. А ён нам піша на снезе лічбу 33 тысячы. І ціхенька тлумачыць, што гэта пад Сталінградам забілі 33 тысячы немцаў. Тыя эсэсаўцы, як мы іх паміж сабой называлі, убачылі, што ён напісаў, і пачалі біць і нас, і таго немца. Хутка немцы пачалі адступаць.

Наталля ТУР.

Заканчэнне на 20-й старонцы.



Фота Наталлі ТУР.

Новы ровар падарыў шматдзетнай сям'і Усціновічаў дырэктар Маладзечанскага лягсаса Анатоль Ермаловіч.

## У Раёўцы адзначылі свята вёскі па-сямейнаму

**МАЛАДЗЕЧНА. 28 чэрвеня святкавалі 70-ю гадавіну вызвалення Раёўкі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.**

Сваімі ўражаннямі ад свята вёскі дзеліцца вядучы рэдактар цэнтралізаванай клубнай сістэмы Маладзечанскага раёна **Алена Якімовіч:**

– Я была на двух святах: і ў Палачанах, і ў Раёўцы. Гэта толькі на першы погляд магло здацца, што сцэнары святаў падобныя. У Раёўцы таксама былі ўпрыгожаныя вуліцы, жыхары таксама рыхтавалі прэзентацыі. Працавалі гандлёвыя рады, з Маладзечна прыехала бочка з квасам. У гэты дзень таксама віншавалі і маладыя, і шматдзетныя сем'і, і самых сталых жыхароў. Дарэчы, у Раёўцы жыве пара, якая разам ужо 57 год. Гэта сям'я **Вацлавы-Ганны і Аляксандра Мацюкоў**. Адзначылі падарункамі лепшага гаспадара вёскі, лепшага кветкавода, лепшае падвор'е.

Але была ў святкаванні, на мой погляд, вялікая розніца. Калі ў Палачанах гэта было шумнае, вялікае свята, дзе мноства гасцей, то ў Раёўцы свята хутчэй нагадвала вялікую сямейную бяседу.

Тут бясплатна частавалі юшкай і салдацкай кашай, ладзілі гульні для самых маленькіх вяскоўцаў, каталі на сапраўднай брычцы пачатку стагоддзя. Да мікрафона на сцэне мог падысці любы, хто хацеў павіншаваць сваіх аднавяскоўцаў або выказаць словы падзякі. Жыхарка Раёўкі нават прачытала верш уласнага сачынення пра сваю родную вёску. Пасля свята засталося ўражанне, быццам я пабыла ў гасцях у сваіх самых блізкіх сваякоў.

**Наталля ТУР.**



Фота Алены ЯКІМОВІЧ.

Паспаборнічаць у армрэслінгу маглі і дзяўчаты.



Фота Алены ЯКІМОВІЧ.

На брычцы мог пакатацца любы ахвотны, і зусім бясплатна.

● СВЯТЫ

# У Палачанаў юбілей – 580-годдзе!

**МАЛАДЗЕЧНА. "Я ўвесь ваш!" – прызнаўся палачанцам дэпутат Мінскага абласнога савета дырэктар Маладзечанскага лягсаса Анатоль Ермаловіч на святкаванні юбілею вёскі, што адзначаўся 29 чэрвеня.**

– Кіроўца, колькі да Палачанаў білет каштуе? Там жа свята ў іх сёння, трэба тупнуць, – пытаецца з раніцы ў прыгарадным аўтобусе жыхар вёскі Аборак.

Тое, што ў Палачанах свята, бачна яшчэ з дарогі: аўтобус спускаецца з узгорачка, а там, унізе, – рознакаляровыя сцяжкі ўздоўж вуліц, гучыць музыка, мноства машын і людзей.

Пачалося свята з таго, што жыхары кожнай вуліцы падрыхтавалі сваю праграму-прэзентацыю той вуліцы, на якой жывуць.

**Ніна Станевіч**, старшыня ветэранскай арганізацыі, адна з арганізатараў свята, распавяла "Рэгіянальнай газеце":

– Жыхары ўсіх 13 палачанскіх вуліц зрабілі цудоўныя прэзентацыі, таму пераможцаў давялося вызначаць у кожнай намінацыі.

– Канешне, хочацца назваць усіх, – дадае Ніна Станевіч, – але асабліва мне запомнілася прэзентацыя святочнага стала вуліцы Чыгуначная. У іх на стале ездзіў паравозік.

У намінацыі "Незвычайная страва" перамаглі жыхары вуліцы Гагарына. Іх стол упрыгожвала фаршыраваная гусь у генеральскай форме. Адзначылі і пераможцаў у намінацыях "Лепшая нацыянальная страва", дзе жыхары вуліцы Рэвалюцыйнай гатавалі і ўкраінскія, і татарскія, і казахскія стравы; "Гасціннасць" – тут пастараліся жыхары вуліцы Будаўнікоў; "Выхадніцтва", жыхары вуліцы Вакзальнай прадэманстравалі, колькі смачных страў можна прыгатаваць з крапівы, рэвеню, лебяды.

Пасля гэтага дружнай талакой жыхары рушылі да Дома культуры, дзе ў чаканні гледача нудзіліся мясцовыя артысты, народныя калектывы з Палачанаў і суседніх вёсак.

Спявачка **Кацярына Грыб**:

– Канешне, прыйшла павіншаваць жыхароў з Палачанаў, а як інакш? Такія святы трэба рабіць часцей. Гэта так цудоўна, калі ўся вёска збіраецца разам. Бачыце, пад спевы артыстаў танцуюць і дзеці, і сталыя людзі. Значыць, жыве вёска. Шкада, што толькі вецер моцны і дождж пырскае. Але быў бы настрой!

Для жыхароў вёскі была прыгатаваная не толькі забаўляльная праграма. На свяце павіншавалі і маладую пару, якая толькі ўступіла ў шлюб, – **Сяргея і Наталлю Лукоўскіх**; і сям'ю **Ганны і Міхаіла Казловых**, у якіх толькі-толькі нарадзілася немаўлятка, і адпаведна самага маленькага жыхара Палачанаў **Мікіту Казлова**; і шматдзетную сям'ю **Івана і Наталлі Усціновічаў**, у якіх растуць пяцёра цудоўных дачушак: **Алена, Аліна, Ульяна, Марыя і Варвара.**

Дырэктар Маладзечанскага лягсаса Анатоль Ермаловіч, уручаючы шматдзетнай сям'і ровар, ад пачуццяў, якія перапаўнялі яго, заявіў уголас: "Я ўвесь ваш!"

Не засталіся без увагі і самыя ганаровыя жыхары Палачанаў. Напярэдадні юбілею вёскі свой уласны 100-гадовы юбілей адзначыла жыхарка Палачанаў **Ефрасіння Міхайлава**.

Узнагародзілі лепшых гаспадароў і гаспадынь.

Ніна Станевіч папрасіла:

– Калі будзеце пісаць у газету, дайце некалькі радкоў пра **Леанілу Гіль**. Гэта цудоўная жанчына. Усё жыццё працавала доктарам у Беразінскай бальніцы, выхавала шасцярых дзяцей, цяпер на пенсіі, але працягвае трымаць чатырох кароў. Яе падвор'е і стала самым лепшым.

Не абышлося свята без традыцыйных гандлёвых радоў. Спадар **Маскалевіч** з Яхімоўшчыны прызнаўся:

– Якое свята без сувеніраў і падарункаў? Акрамя таго, што можна паслухаць канцэрт, сустрэцца са знаёмымі, абавязкова трэба набыць штосьці на памяць. Мы набылі саламянага дамавічка, каб абараняў дом.

**Наталля ТУР.**

**Больш фота на**



● СПАЖЫВЕЦ

# Фільтры могуць пагоршыць ваду

**МАЛАДЗЕЧНА. Распаўсюднікі дарагіх сістэм ачысткі ўнушаюць, што ў водаправодзе вада няякасная.**

Жыхары Маладзечна і пасёлка Чысць зноў пачалі масава прасіць патлумачыць, што яны п'юць з крана.

Распаўсюднікі фільтраў тонкай ачысткі дэманстравалі ім доследы і прапаноўвалі дарагую сістэму для паляпшэння якасці вады. Жыхароў асабліва ўражваюць доследы з выпаданнем асадкаў, пры апусканні ў ваду электрода.

Методыкі такіх выпрабаванняў несертыфікаваныя, і іх правядзенне незаконнае.



Фота lajmi.net.

**Спецыялісты запэўніваюць, што вада ў водаправодах Маладзечна і Чысці добрая, адпавядае ўсім нормам і не патрабуе фільтраў.**

**Вада ў Маладзечне і Чысці адпавядае ўсім нормам.**

Усе гігіенічныя нарматывы, у тым ліку па агульнай мінералізацыі, у водаправодах вытрымныя. Сухі астатак знаходзіцца на аптымальным узроўні. У Маладзечне – 230-250 мг/л, у Чысці – 205-208 мг/л. Мінімальны дапушчальны узровень мінералізацыі – 100 мг на літр.

Гэта значыць, што прымяняць фільтры тонкай ачысткі вады тут немэтазгодна. Яны могуць нават знізіць мінералізацыю вады ніжэй за дапушчальны нарматыў.

Рэкамендуем прасіць у аферыстаў-распаўсюднікаў аформіць пратакол даследавання, запісаць іх рэквізіты. Гэта спатрэбіцца, калі вам не аддадуць грошы за вернуты фільтр. Тады можна будзе перадаць матэрыялы ў Маладзечанскі цэнтр стандартызацыі і метралогіі, а таксама пісьмова звярнуцца ў пракуратуру з патрабаваннем прыцягнуць дылераў за парушэнне заканадаўства.

Якасць вады рэгулююць санітарныя правілы і нормы "Пітная вада. Гігіенічныя патрабаванні да якасці вады цэнтралізаваных сістэм пітнога водазабеспячэння. Кантроль якасці" і "Патрабаванні да фізіялагічнай паўнацэннасці пітной вады".

**Міхаіл МІХАЛЕВІЧ,**
**доктар-гігіеніст, загадчык аддзялення камунальнай гігіены Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**

## На возеры Свір затрымалі браканьера

**МЯДЗЕЛ. "РГ" паведамляла, што 26 чэрвеня ўступіла ў сілу новая рэдакцыя Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства і значна павялічыліся таксы для вызначэння памеру кампенсацыі шкоды, нанесенай навакольнаму асяроддзю.**

І ўжо на наступны дзень супрацоўнікі Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету затрымалі жыхара мястэчка Свір. Адбылося гэта а палове сёмай раніцы на возеры Свір.

Мужчыну раней неаднаразова прыцягвалі за парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства. На гэты раз ён забароненым спосабам з выкарыстаннем 275 калабашак у начны час сутак незаконна злавіў два вугры, забароненыя да здабычы пры аматарскім рыбалоўстве, чатыры судакі, якія не дасягнулі прамысловай меры, аднаго шчупака і 15 акунёў.



Фота забяспечана Уладзімірам ХІЛАМ.

**За такі ўлоў браканьеру давядзецца раскашэліцца.**

Свіранін прычыніў шкоды навакольнаму асяроддзю на суму 10 мільёнаў 800 тысяч рублёў, або 72 базавыя велічыні, паведаміў старшы дзяржінспектар Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету **Уладзімір Хіла**.

Таксама яму давядзецца пакрыць кошт незаконна здабытай рыбы – гэта яшчэ амаль мільён рублёў.

А яшчэ ў адносінах да рыбака-браканьера ўзбуджілі крымінальную справу за незаконную здабычу рыбы.

**Аддзел інфармацыі.**

● ПРЫРОДА

## Збіраем грыбы і ягады без шкоды для прыроды

**Надышоў сезон збору ягад і грыбоў. Нагадаю, што нарыхтоўка і збор дзікарослых ягад і грыбоў забараняюцца:**

– у лясах запаведнікаў і помнікаў прыроды;

– у лясах асабліва каштоўных участкаў ляснога фонду, якія маюць генетычнае, навуковае і гісторыка-культурнае значэнне;

– у гарадскіх лясах і лясах лесапаркавых зялёных зон;

– у курортных лясах.

Грыбы неабходна збіраць спосабамі, якія не наносяць шкоды грыбніцы. Неабходна зразаць іх нажом на ўзроўні глебы або асцярожна выкручваць. Забараняецца збіраць лісічкі, у якіх дыяметр шапачкі меншы за 1,5 сантыметра. Пры зборы ягад забараняецца прымяняць розныя механічныя прыстасаванні ("саўкі", "грабеньчыкі", "камбайны" і таму падобнае).

За парушэнне ўстаноўленых тэрмінаў, прымяненне забароненых сродкаў або метадаў збору ці нарыхтоўкі грыбоў, дзікарослых раслін ці іх частак або за іншае парушэнне правілаў збору ці нарыхтоўкі накладаецца штраф у памеры да дваццаці базавых велічынь.

**Валянцін ГАЛУБОВІЧ,**
**намеснік начальніка Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

| Курсы валют НБ РБ | 26.06 | 2.07 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 10 190,00 | **10 210,00** |
| Еўра | 13 870,00 | **13 980,00** |
| Злоты | 3 342,79 | **3 364,09** |
| Літ | 4 016,00 | **4 048,45** |
| Расійскі рубель | 300,50 | **298,50** |
| Грыўня | 856,66 | **869,68** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 1.07** | | |
| Еўра | 13860/13950 | **13900/14010** |
| Долар ЗША | 10185/10230 | **10180/10230** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 25.06 | 1.07 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.,** 1 кг | 125900 | **137900** |
| **Сасіскі,** 1 кг | 60050 | **53900** |
| **Кураня-бройлер,** 1 кг | 29900 | **28900** |
| **Ялавічына** (выразка), 1 кг | 100000 | **100000** |
| **Мінтай свежамарожаны,** 1 кг | 28900 | **28900** |
| **Селядзец,** 1 кг | 32500 | **32500** |
| **Скумбрыя х/в,** 1 кг | 105000 | **95000** |
| **Рыс,** 0,9 кг | 12000 | **14000** |
| **Грэчка,** 0,9 кг | 8500 | **8500** |
| **Яйкі курыныя,** 1 дзясятак | 10000 | **11000** |
| **Алей "Масловія"** | 13000 | **12500** |
| **Маянэз,** 200 г | 5500 | **5500** |
| **Соус "Мінскі",** 0,5 л | 7500 | **9100** |
| **Кава "Nescafe",** 100 г | 28000 | **30000** |
| **Шпроты,** бляшанка 160 г | 9000 | **11500** |
| **Цыбуля рэпчатая,** 1 кг | 9000 | **11500** |
| **Капуста,** 1 кг | 6000 | **5500** |
| **Морква,** 1 кг | 9000 | **11000** |
| **Буракі,** 1 кг | 12000 | **10000** |
| **Лімоны,** 1 кг | 24000 | **30000** |
| **Апельсіны,** 1 кг | 16500 | **16500** |
| **Мандарыны,** 1 кг | 21000 | **20000** |
| **Памідоры,** 1 кг | 19500 | **19000** |
| **Агуркі,** 1 кг | 8500 | **8000** |
| **Перац,** 1 кг | 38500 | **49000** |
| **Вінаград,** 1 кг | 21000 | **24000** |
| **Бананы,** 1 кг | 14900 | **13000** |
| **Яблыкі,** 1 кг | 11500 | **10500** |
| **Грушы,** 1 кг (Дзюшэс) | 25900 | **22000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако,** 1,5 л | 15000 | **15000** |
| **Масла,** 1 кг | 80000 | **9000** |
| **Тварог,** 1 кг | 50000 | **50000** |
| **Бульба,** маладая 1 кг | 12000 | **8000** |
| **Сала,** 1 кг | 100000 | **100000** |
| **Мёд,** 0,5 л | 50000 | **50000** |
| **Яйкі,** 1 дзясятак | 18000 | **15000** |

АВАРЫІ

# Пенсіянер на ровары ўехаў у аўто і загінуў

**СМАРГОНЬ. Мужчына пасля сутыкнення яшчэ быў жывы, але ў шоку. Ён памёр па дарозе ў бальніцу.**

– Справу вырашалі нават не секунды, а мілісекунды, – распавядае следчы Смаргонскага райаддзела Следчага камітэта **Павел Іваноўскі**, які выязджаў на месца здарэння. – Я некалькі разоў пераглядаў інфармацыю з відэарэгістратара "Хёндая". Усё здарылася літаральна за тры секунды.

Аварыя адбылася апоўдні ў нядзелю, 29 чэрвеня. 63-гадовы мужчына ехаў з лецішча на Смаргонь. Каля вёскі Белая Смаргонскага раёна насустрач яму ехаў красовер "Хёндай Санта Фэ", за рулём якога быў 51-гадовы кіроўца.

За 60-70 метраў раварыст пачаў перасякаць дарогу ў бок машыны. Кіроўца "Хёндая" даў правей, але смаргонец працягваў рух. Пазбегнуць лабавога сутыкнення было немагчыма.

Раварыст на месцы здарэння быў яшчэ жывы.

– Але ён быў у стане шоку, са шматлікімі пераломамі, задыхаўся, – гаворыць следчы. – Ён быў проста не ў стане патлумачыць, чаму выехаў на сустрэчную паласу.

Паводле слоў Паўла Іваноўскага, красовер "Хёндай" ехаў без перавышэння хуткасці.

Да выхаду на пенсію смаргонец выкладаў кіраванне транспартнымі сродкамі ў аўташколе.

Справай па гэтым ДТЗ займаецца Следчы камітэт.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**




Інфаграфіка Зоі ХРУЦКАЙ.

**Даведка "РГ".** Красовер – аўтамабіль павышанай праходнасці. Аб'ядноўвае ў сабе якасці ўседарожніка і пазадарожніка.

ЗДАРЭННІ

## Збіў хлопца за доўгія валасы

**ВІЛЕЙКА. Паездка ў Вілейку скончылася для 20-гадовага маладзечанца крымінальнай справай. Ён 21 чэрвеня быў у гасцях у сябра ў Вілейцы. Там выпіў. Вечарам абодва пайшлі прагуляцца.**

У палове адзінаццатай на прыпыначным пункце па вуліцы Лаўрыновіча маладзечанец прычапіўся да двух 17-гадовых хлопцаў. У аднаго з іх яму не спадабаліся доўгія валасы, расказаў начальнік Вілейскага раённага аддзела Следчага камітэта **Мікалай Раманчук.**

Хуліган збіў адразу аднаго віляйчаніна, потым – другога. Аднаму хлопцу выбіў чатыры зубы.

Узбудзілі крымінальную справу за хуліганства. Маладзечанец можа быць пакараны грамадскімі працамі або штрафам, або папраўчымі работамі на тэрмін да двух год, або арыштам на тэрмін да шасці месяцаў, або пазбаўленнем волі на тэрмін да трох год.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Везлі 100 тысяч кілбасных абалонак незаконна

**АШМЯНЫ. Грузавы аўтамабіль затрымалі 16 чэрвеня.**

Кіроўца ехаў з Латвіі ў Казахстан. Паводле дакументаў, ён вёз штучную кілбасную абалонку. Але падчас дагляду аказалася, што тавару перавозяць на 100 тысяч штук больш. Тавар забралі. Па папярэдняй ацэнцы, ён каштуе каля пяці мільярдаў рублёў.

**Паводле паведамлення Ашмянскай мытні.**

КРАДЗЯЖЫ

## У гандлёвым цэнтры ўкралі выручку

**МАЛАДЗЕЧНА. У нядзелю, 29 чэрвеня, з прылаўка аднаго з павільёнаў у гандлёвым цэнтры "Спадарожнік" невядомы выкраў два з паловай мільёны рублёў.**

Пра здарэнне "Рэгіянальнай газеце" распавёў старшы следчы Маладзечанскага аддзела Следчага камітэта **Юры Багушэвіч:**

– У міліцыю звярнулася гаспадыня гандлёвага павільёна. Яна распавяла, што ў нядзелю адчула сябе блага і патэлефанавала сваёй цётцы, каб тая яе падмяніла.

Адбылося гэта каля 13.00. Павільён працаваў, у яго заходзілі пакупнікі, пераважна жанчыны і дзяўчаты, бо ў павільёне прадавалі жаночае адзенне, бялізну. Каля 16.00 прадавачка заўважыла, што выручка знікла. Яна прыгадала, што апошні раз бачыла грошы каля 15 гадзін, калі разлічвала чарговага пакупніка.

Увесь гэты час грошы знаходзіліся ў адкрытай скрыначцы, што стаяла з супрацьлеглага боку прылаўка. Каля 16 гадзін прадавачка разлічвала пакупніцу і заўважыла прапажу.

Следчы камітэт узбудзіў крымінальную справу.

**Наталля ТУР.**

### У Мядзеле залезлі ў краму

**МЯДЗЕЛ.** У ноч на суботу, 28 чэрвеня, у Мядзеле абрабавалі краму "Родны кут" па вуліцы Заазёрнай. Зладзеі пранiклі ў краму з тыльнага боку: для гэтага ўзламалі краты і разбілі шыбу.

Вынеслі алкагольныя напоі, цыгарэты, мясныя вырабы – усяго на суму каля 1 мільёна 300 тысяч рублёў, паведаміў часовы выканальнік абавязкаў начальніка Мядзельскага РАУС **Аляксандр Філіпчык**.



Фота berdsk-online.ru.

**На мінулых выхадных адбыліся два крадзяжы у крамах.**

У суботу супрацоўнікі міліцыі зладзеяў і знайшлі. Адзін з іх – жыхар райцэнтра, другі – Мядзельскага раёна. Раней абодва былі судзімыя. Частку скрадзенага мужчыны паспелі апрыходаваць.

**Аддзел інфармацыі.**

КРЫМІНАЛЬНЫЯ НАВІНЫ

## Усё лета міліцыя будзе змагацца з макам

**МАЛАДЗЕЧНА.** Ад 1 чэрвеня да 31 жніўня міліцыя ў Беларусі праводзіць спецыяльную праграму "Мак".

На Маладзечаншчыне пераважаюць наркотыкі расліннага паходжання: марыхуана, мак, макавая саломка. У межах праграмы міліцыя будзе працаваць, каб не допускаць пасеваў, вырошчвання, збору і распаўсюджання маку і канапель.

Гэтыя культуры збіраюць і пасля прадаюць восенню і зімой. Тыя, хто займаецца продажам наркотыкаў, пераважна жывуць у валожынскім кірунку: у вёсках Беразінскае, Гарадзілава, Белыя, Дземяшы, Парэчча.

Калі вам стане вядома пра збор ці вырошчванне наркатычных раслін, просім паведаміць пра гэта ў міліцыю па тэлефонах: **(80176) 77-19-11 ці (8029) 564-23-44.** Ананімнасць гарантуем.

**Паводле паведамлення Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

## Шукаюць відавочцаў аварый

**МАЛАДЗЕЧНА.** Дзяржаўтаінспекцыя просіць звярнуцца ў міліцыю, калі вы былі сведкай гэтых здарэнняў.

1 чэрвеня каля 12:30 на перакрыжаванні вуліцы Замкавая з вуліцамі Харэвіч і Багдановіча адбылася аварыя. Сутыкнуўся "Сітраэн С3" з "Мерседэсам Ванеа".

Другая аварыя адбылася 23 чэрвеня каля 11:50 на першым кіламетры аўтадарогі Туркаўшчына – станцыя Пралескі. Кіроўца "Аўдзі 80" наехаў на пешахода.

Відавочцы могуць звярнуцца ў ДАІ па вуліцы Дудко, 1-18 ці патэлефанаваць па тэлефонах: **(80176) 74-53-40, 74-53-43 ці 102.**

## Прасочаць, ці прышпіліліся

**МІНШЧЫНА.** Дзяржаўтаінспекцыя Мінскай вобласці 27 чэрвеня праводзіць адзіны дзень бяспечнага руху. Дэвіз – "Прышпіліся!"

Такім чынам ДАІ прапагандуе выкарыстанне сродкаў пасіўнай бяспекі.

Сёлета на Маладзечаншчыне зарэгістравалі 21 ДТЗ, у якім загінулі тры чалавекі і 19 атрымалі цялесныя пашкоджанні.

Дзве аварыі здзейснілі кіроўцы, якія былі п'яныя за рулём.

Многія кіроўцы і пасажыры не карыстаюцца рамянямі бяспекі. У Мінскай вобласці кожная трэцяя аварыя адбываецца з удзелам дзіцяці-пасажыра.

ДАІ раіць прышпільвацца нават падчас кароткіх паездак.

**Сяргей БАРТОШ, дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**




На фоне — самы вялікі ў Беларусі сонечны калектар. Ён устаноўлены ў дзіцячым цэнтры "Надзея".

ЭНЕРГЕТЫКА

# Сонечны калектар у "Надзеі" за год зэканоміць 9500 еўра

**ВІЛЕЙКА. У дзіцячым цэнтры "Надзея" на Вілейшчыне 27 чэрвеня прайшоў семінар "Развіццё аднаўляльнай энергетыкі".**

У ім прынялі удзел прадстаўнікі дзіцячых цэнтраў, санаторыяў, экалагічных арганізацый, сялянска-фермерскай гаспадаркі, школ ды іншых устаноў з усёй рэспублікі.

Месца для правядзення семінара выбралі невыпадкова: сёлета ў красавіку ў "Надзеі" запрацаваў самы вялікі ў Беларусі сонечны калектар. Яго магутнасць – 91,5 кВт. За май з дапамогай калектара атрымалі больш за шэсць гігакалорый цеплавой энергіі.

Паводле папярэдніх разлікаў, за кошт функцыянавання ўстаноўкі на працягу года будзе выпрацоўвацца амаль 88 гігакалорый цеплавой энергіі.

**Гэта не толькі зэканоміць 9500 еўра, але і паменшыць выкіды вуглякіслага газу ў атмасферу больш чым на 27 тон. За кошт атрыманай калектарам энергіі можна забяспечыць дзіцячы цэнтр ацяпленнем і гарачым водазабеспячэннем цягам 14 дзён.**

Устаноўлены калектар у межах праекта, які рэалізуецца грамадскім аб'яднаннем "Жывое партнёрства" пры фінансавай падтрымцы Праграмы малых грантаў Глабальнага экалагічнага фонду і нямецкіх партнёраў цэнтра "Надзея".

– Выкарыстанне сонечнай энергіі для нагрэву вады ў "Надзеі" пачалося яшчэ ў 2004 годзе, – прыгадала менеджар праектаў аб'яднання "Жывое партнёрства" **Ларыса Якавюк**. – Першы сонечны калектар устанавілі на будынку сталовай дзіцячага цэнтра. З яго дапамогай папярэдне грэюць ваду для патрэб кухні. За дзесяць гадоў ад калектара атрымана амаль 86 гігакалорый цеплавой энергіі, што дазволіла зэканоміць больш за дзевяць тысяч еўра.

Другі калектар з'явіўся тры гады таму на гаспадарчым будынку.

Трэцяя ўстаноўка адрозніваецца ад першых дзвюх канструктыўна і плошчай.

**Яна змяшчае 45 элементаў, агульная плошча калектара перавышае 126 метраў квадратных.**

Для размяшчэння калектара такой вялікай плошчы абралі паверхню даху, пад якім складваюцца дровы для кацельні. Вакуумны калектар пераўтварае сонечнае выпраменьванне ў цеплавую энергію, якая выкарыстоўваецца для ацяплення і гарачага водазабеспячэння дзіцячага цэнтра.

Каардынатар праграмы малых грантаў Глабальнага экалагічнага фонду ў Беларусі **Аляксандр Леўчанка** расказаў, што грамадскія арганізацыі і сельскія Саветы могуць падаваць заяўкі ў фонд на атрыманне фінансавай дапамогі для сацыяльных і навучальных устаноў. Найбольш часта заяўкі накіраваныя на рашэнне праблем біяразнастайнасці, дэградацыі зямель, змянення клімату. Апошняму напрамку якраз адпавядаюць запыты па энергаэфектыўнасці, альтэрнатыўных крыніцах энергіі.

Дырэктар асацыяцыі "Аднаўляльная энергетыка" **Уладзімір Нісцюк** расказаў пра стан і перспектывы развіцця аднаўляльных крыніц энергіі ў Беларусі і свеце. Падзяліліся досведам прадстаўнікі арганізацый з нашай краіны, дзе выкарыстоўваюць сонечную энергію: напрыклад, расказалі пра сонечную электрастанцыю, якую пабудавалі ў "SOS – дзіцячай вёсцы Бараўляны". А нямецкі сябра асацыяцыі "Аднаўляльная энергетыка" **Клаўс Якобі** пазнаёміў з досведам сваёй краіны.

Удзельнікі семінара пабачылі не толькі прамысловыя сонечныя калектары.

**Навуковец з Мінска расказаў і паказаў відэафільм пра самаробны калектар, які зрабіў з трубак адпрацаваных люмінесцэнтных лямпаў, што ачышчаныя ад пароў ртуці.**

Алесь ВЫСОЦКІ.

**Даведка "РГ".** Сонечны калектар - прылада для збору цеплавой энергіі Сонца. У адрозненне ад сонечных батарэй, якія выпрацоўваюць непасрэдна электрычнасць, калектары награваюць матэрыял-цепланосьбіт.

КУЛЬТУРА

## Пётр Парашэнка ўсклаў кветкі да помніка ўраджэнцу Вілейшчыны

**ВІЛЕЙКА. Прэзідэнт Украіны Пётр Парашэнка разам з першым і другім прэзідэнтамі Украіны Леанідам Краўчуком і Леанідам Кучмам усклаў кветкі да помніка стваральніку першай украінскай Канстытуцыі гетману Піліпу Орліку ў Кіеве.**

Мерапрыемства, якое адбылося 28 чэрвеня, прысвячалася святкаванню Дня Канстытуцыі Украіны, перадае segodnya.ua.

Таксама на ўрачыстасцях прысутнічалі прэм'ер-міністр Украіны **Арсеній Яцанюк**, мэр Кіева **Віталь Клічко**, народныя дэпутаты, прадстаўнікі духавенства, грамадскасці.

Піліп Орлік – украінскі палітычны, дзяржаўны і ваенны дзеяч, гетман Запарожскага Войска ў выгнанні, паэт, публіцыст, адзін з укладальнікаў "Пактаў і Канстытуцыі правоў і вольнасцяў Войска Запарожскага". Нарадзіўся ў 1672 годзе ў вёсцы Касута ля Вілейкі ў шляхецкай сям'і.

У вёсцы Касута ўсталяваны памятны знак у гонар Піліпа Орліка. Яго імем названая адна з вуліц у Вілейцы.

Аддзел інфармацыі.

ДУХОЎНАСЦЬ

## У Назарэце асвяцілі мазаіку абраза Маці Божай Будслаўскай

**МЯДЗЕЛ. У пятніцу, 27 чэрвеня, у Назарэце (Ізраіль) асвяцілі мазаіку абраза Маці Божай Будслаўскай.**

Урачыстасці распачаліся святой імшой у Базыліцы Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі, паведамляе catholic.by. Узначаліў яе Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп **Тадэвуш Кандрусевіч**. На імшы былі 300 пілігрымаў з Беларусі.

Мазаічную выяву Будслаўскага абраза асвяцілі напрыканцы імшы. Пазней мазаіку ўстановяць у падворку Базылікі з левага боку ад цэнтральнага ўвахода.

Мазаіка мае ў вышыню два метры і семдзесят сантыметраў у шырыню. Яна ўяўляе сабой кампазіцыю з выявамі абраза Маці Божай Будслаўскай, будслаўскага касцёла і абрысаў межаў Беларусі. Выкананая з бурштыну і іншых матэрыялаў.

Аддзел інфармацыі.

## Праграма ўрачыстасцяў у Будславе

**МЯДЗЕЛ. Урачыстасці Маці Божай Будслаўскай сёлета адбудуцца 4 і 5 ліпеня.**

У пятніцу ад 13 гадзін кусташ санктуарыя будзе сустракаць і вітаць пілігрымаў.

У 16 гадзін – прыняценне крыжа і абраза Сусветнага дня моладзі. А 18 гадзіне адбудзецца святая імша для пілігрымаў. Разнастайныя мерапрыемствы ля храма і ўнутры будуць доўжыцца да апоўначы, калі пройдуць працэсія з копіяй абраза Маці Божай Будслаўскай і святая імша.

У дзве гадзіны ночы пачнецца моладзевая праграма ў палатачным гарадку.

Набажэнствы працягнуцца ўначы і раніцай. У прыватнасці, у дзве гадзіны ночы пройдзе святая літургія паводле грэка-каталіцкага абраду, у шэсць і дзевяць гадзін – святая імша.

А 11-й гадзіне пачнецца святая імша. Выстаўленне Найсвяцейшага Сакрамэнту. Эўхарыстычная працэсія з копіяй абраза Маці Божай Будслаўскай. Развітанне з крыжам Сусветнага дня моладзі. Ушанаванне рэліквій святога Яна Паўла ІІ.

Аддзел інфармацыі.

 



ПАМЯЦЬ

# Дастойны сын сваёй Айчыны

## Памяці Генадзя Бураўкіна. З гісторыі аднаго верша паэта

**Я пазнаёміўся з Генадзем Бураўкіным у 1950 годзе. Напачатку гэта было завочнае знаёмства, калі я вучыўся ў 9-м класе Мёрскай сярэдняй школы.**



Фота Глеба ЛАБАДЗЕНКІ.

**Генадзь Бураўкін са сваёй мамай, Феадосіяй Ягораўнай. 9 студзеня 2005 года, Полацк. Феадосія Ягораўна Бураўкіна памерла на 101-м годзе жыцця незадоўга да смерці сына.**

Пасля было і сапраўднае знаёмства, а ў маім архіве захаваўся адзін з ранніх вершаў Бураўкіна, напісаных яго рукой.

Лістапад 1950 года. Я толькі што вярнуўся да сястры Тоні, у якой кватараваў у дзявятым класе Мёрскай сярэдняй школы. Яна мяне сустрэла ўсмешкай:

– Ты, можа, ужо і прачытаў пра сябе ў абласной газеце? – І працягнула свежы нумар полацкай газеты "Бальшавіцкі сцяг". У ім літаратурны кансультант **Алесь Савіцкі** ў аглядзе вершаў паэтаў-пачаткоўцаў сказаў, што добрыя надзеі падаюць Г.Бураўкін з Полацка і Б.Манцэвіч з Мёраў.

Так я завочна пазнаёміўся з будучым класікам беларускай літаратуры.

А тады, у 1950-м, захацелася сустрэцца з Генадзем. І такая магчымасць надарылася ў 1954-м, калі ён паступіў на аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, дзе я займаўся на 3-м курсе.

Да гэтага Бураўкін друкаваўся ў шэрагу газет, а я, змясціўшы свой першы верш у Мёрскай раённай газеце, далей так і не рушыў. А Бураўкін з пачынаючага перайшоў у малады, з малады – у сталыя, са сталых – да класікі.

І вось у першым дзесяцігоддзі 21-га стагоддзя мая **ўнучка-журналістка Жэня** на сустрэчы з Бураўкіным у Маладзечне перадала прывітанне Генадзю Мікалаевічу ад дзеда Барыса, які пастаянна называе сябе "вечна пачынаючым паэтам". Бураўкін аж рассмяяўся:

– І не сорамна яму сябе так называць? Перадай яму прывітанне і скажы, каб на старасці гадоў выдаў пару зборнікаў. Бо ў яго і вартыя вершы трапляліся. А то некалі ва ўніверсітэце нават рэцэнзаваў мае паэтычныя опусы, што я змяшчаў у насценгазеце "Журналіст".

Было такое. Шмат вершаў майго малодшага таварыша прайшло і праз мае рукі, бо на той час я быў рэдактарам аднаго з выпускаў (такія рэдактары чаргаваліся). А галоўным рэдактарам з'яўляўся тады яшчэ малады выкладчык, які вёў стылістыку, выдатны спецыяліст і старшы таварыш **Міхаіл Яўгенавіч Цікоцкі**. Іншы раз ён сам прыносіў нам творы студэнтаў. Так трапіў да мяне верш Генадзя Бураўкіна "Маці", рукапісны арыгінал якога я захоўваю па сённяшні дзень. Напісаны ён, відаць, у 1953 годзе, бо ў чацвертым слупку ёсць такі радок: "Мне ўжо стукнула летам мінулым сямнаццаць".

На жаль, у пасляўніверсітэцкі перыяд з Генадзем Мікалаевічам я сустракаўся вельмі рэдка. Апошняя выпадковая сустрэча была ў нас у Мінску ў 1971 годзе. Больш мы не бачыліся.

30 мая Генадзя Бураўкіна не стала. Не стала Паэта з вялікай літары, дастойнага сына Беларусі. Памянёны верш "Маці" заканчваецца прарочымі словамі, хоць леглі яны на паперу ў самым раннім узросце:

*Я табе абяцаю*
*ў растання часіну*
*Так імкнуцца жыццё*
*ўсё сваё будаваць,*
*Каб магла з табой*
*разам і маці-Айчына*
*Мяне сынам дастойным*
*сваім называць.*

**Барыс МАНЦЭВІЧ, журналіст, Вілейка.**

**Даведка "РГ".** Генадзь Бураўкін. Беларускі паэт, журналіст, дыпламат. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Нарадзіўся 28 верасня 1936 года на Віцебшчыне. Памёр 30 мая 2014 года.

### Маці

*Чамадан упакован. Засоўвае маці*
*Мне ў кішэні пячэнні свае і пірог.*
*І няўмольна наблізіўся час развітацца*
*І ступіць у жыццё, за бацькоўскі парог...*
*Маці, мама мая! З развітаннем маршчына*
*Ляжа сёння, я знаю, ля сціснутых губ.*
*Колькі іх носіць твар твой любімы з-за сына*
*Я ўсяго і прыпомніць, мабыць, не змагу.*
*Ты ж заўсёды адно толькі добрае помніш,*
*Хоць я часам і горыч прыносіў табе.*
*І скупіўся на ласку, што сэрца мне поўніць,*
*Што нашу нераскрытай чамусьці ў сабе.*
*Мне ўжо стукнула летам мінулым сямнаццаць,*
*Над губой пачалі прабівацца вусы.*
*Аба мне ж ты клапоцішся, як аб дзіцяці:*
*Я юнак для другіх, для цябе – толькі сын...*
*Ну, мне час. Ну, бывай і не плач толькі, мама.*
*Я ж ужо не маленькі. Не трэба, не плач.*
*Лепш у вочы зірні мне сухімі вачамі.*
*Столькі ў іх маცярынскай любві і цяпла!*
*Я табе абяцаю ў растання часіну*
*Так імкнуцца жыццё ўсё сваё будаваць,*
*Каб магла з табой разам і маці-Айчына*
*Мяне сынам дастойным сваім называць.*



Маці.
Чамадан упакован. Засоўвае маці
Мне ў кішэні пячэнні свае і пірог.
І няўмольна наблізіўся час развітацца
І ступіць у жыццё, за бацькоўскі парог...
Маці, мама мая! З развітаннем маршчына
Ляжа сёння, я знаю, ля сціснутых губ.
Колькі іх носіць твар твой любімы з-за сына
Я ўсяго і прыпомніць, мабыць, не змагу.
Ты-ж заўсёды адно толькі добрае помніш,
Хоць я часам і горыч прыносіў табе
І скупіўся на ласку, што сэрца мне поўніць,
Што нашу нераскрытай чамусьці ў сабе.
Мне ўжо стукнула летам мінулым сямнаццаць
Над губой пачалі прабівацца вусы.
Аба мне-ж ты клапоцішся, як аб дзіцяці:
Я юнак для другіх, для цябе – толькі сын...
Ну, мне час. Ну, бывай і не плач толькі, мама.
Я-ж ужо не маленькі. Не трэба, не плач.
Лепш у вочы зірні мне сухімі вачамі.



Столькі ў іх мацярынскай любві і цяпла!
Я табе абяцаю ў растання часіну
Так імкнуцца жыццё ўсё сваё будаваць,
Каб магла з табой разам і маці-Айчына
Мяне сынам дастойным сваім называць.
Генадзій Бураўкін

**Аўтограф аднаго з ранніх вершаў Генадзя Бураўкіна. Захоўваецца ў вілейчаніна Барыса Манцэвіча.**

СВЯТЫ

## Залессе запрашае на Купалле

**СМАРГОНЬ.** Этнасвята "У таямнічую ноч Купальскую" адбудзецца ў аграгарадку Залессе ў ноч на 7 ліпеня.

Пачнецца свята а восьмай гадзіне вечара і будзе доўжыцца да трох гадзін ночы.

У Купальскую ноч усе ахвотныя змогуць прыняць удзел у народных абрадах, гульнях, карагодах.

Пакаштаваць беларускія стравы, набыць сабе штосьці на памяць аб свяце ў "Горадзе майстроў" і, вядома, адшукаць папараць-кветку.

У гэту ноч на свяце будзе спяваць фальклорны калектыў "Гуда" з Мінска, а таксама сталічныя дыджэі.

– Адзінае, што свята будзе адбывацца на закрытай паркавай зоне Дома культуры, таму ўваход на яго будзе платны, – паведаміла "Рэгіянальнай газеце" дырэктар Залескага Дома культуры **Святлана Кенько.**

### А ў Вілейцы...

**ВІЛЕЙКА.** Тут пачнуць святкаваць Купалле а 10-й гадзіне вечара 6 ліпеня. Свята пройдзе ў Ніжнім парку. Пра гэта паведамілі ў Палацы культуры.

**Наталля ТУР.**

## Пройдзе фестываль кветак у гонар Янкі Купалы

**МАЛАДЗЕЧНА.** Традыцыйнае свята паэзіі, песні і народных рамёстваў пройдзе ў Купалаўскім мемарыяльным запаведніку ў Вязынцы 6 ліпеня.

Сёлета ў межах урачыстасці адбудзецца "Кветкавы этнафестываль". Запланаваны таксама конкурс купальскіх вянкоў і букетаў, дзіцячы фларыстычны конкурс, а таксама конкурс на самы вялікі вянок.

Як паведамілі ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы, арганізатары падрыхтавалі падарунак ад фларыстаў для кожнага, хто прыйдзе на імпрэзу ў народным строі.

Сучасныя беларускія паэты будуць чытаць купалаўскія вершы. Сярод іх – **Навум Гальпяровіч, Віктар Шніп** і іншыя. Выступяць народныя ансамблі і фальклорныя калектывы.

Доўжыцца свята будзе ад 12 да 18 гадзін. Кветкавы этнафестываль пачне працу а 10 гадзіне.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



 

МОЙ КРАЙ

# Невядомая гісторыя. Батурына

*Працяг. Пачатак у №№22, 23, 24, 25, 26.*

**ВІЛЕЙКА. Ёсць у Вілейскім раёне вёсачка з загадкавай назвай Батурына. Яе заўжды закранaлі ўсе падзеі, якія толькі здараліся ў краіне на працягу ўсіх стагоддзяў.**

Сасланы ў лагеры Комі, Пётра Сыч шмат хварэў, пакутаваў ад невыносных умоў зняволення, але выжыў – мабыць, таму, што яго ў рэшце рэшт прызначылі мастаком (ён маляваў партрэты лагернага начальства). У верасні 1941 года на падставе дамовы Сікорскага–Майскага як польскі грамадзянін Пётра Сыч быў перакінуты спачатку ў Надволжа, потым у Самарканд, дзе стваралася польская армія генерала Андэрса. Пётра Сыч, як і тысячы іншых беларусаў з Заходняй Беларусі, далучыўся да Войска Польскага.

Андэрс не збіраўся ваяваць на баку саветаў і прыклаў шмат намаганняў, каб вывесці сваю армію з тэрыторыі СССР, што ўдалося яму зрабіць з вялікай цяжкасцю толькі пасля таго, як Вялікабрытанія перакінула частку сваіх войскаў з Сярэдняга Усходу на змаганне з японцамі. Месца англічан і заняў Другі польскі корпус, як пачалі называць армію Андэрса ў Іране.

Іран, Ірак, Палесціна, Егіпет, Ліван, Італія – такі баявы шлях прайшлі жаўнеры гэтага корпуса да Монтэ Касіна, а разам з імі і паручнік Пётра Сыч, які браў удзел у баях пад Монтэ Касіна. Быў чатыры разы паранены.

Уганараваны узнагародамі розных краін: брытанскімі – Зоркай Італіі, Зоркай 1939–1945, медалём вайны 1939–1945 і медалём Абароны, польскімі – Крыжам №45039 Монтэ Касіна, медалём Войска, Ганаровай адзнакай за раненні і іншымі.

Па заканчэнні вайны корпус генерала Андэрса быў пераведзены ў Англію. Там Пётра Сыч з 1946 года пачаў працаваць. У 1951 годзе пераехаў у Германію, дзе рэдагаваў сатырычны часопіс "Шарсьцень" і супрацоўнічаў з газетай "Бацькаўшчына", што выдавалася ў Мюнхене. Стаў адным з самых першых супрацоўнікаў радыё "Свабода" (тады радыё "Вызваленьне").

У лютым 1954 года з Канады ў Мюнхен прыехаў доктар Вінцэнт Жук-Грышкевіч, каб распачаць працу па стварэнні беларускай рэдакцыі радыё "Вызваленьне", і ён адразу запрасіў у штатныя супрацоўнікі Пётру Сыча. Сустрэча ў Мюнхене была не першай. Улетку 1940 года Вінцэнт Жук-Грышкевіч і Пётра Сыч разам сядзелі ў савецкай турме ў Полацку і з таго часу пасябравалі. Кіраўнік Беларускай рэдакцыі добра ведаў пра адданасць Пётры Сыча беларускай справе і лічыў, што менавіта такія людзі і павінны ствараць беларускае незалежнае радыё. Пётра Сыч з вялікім энтузіязмам узяўся за новую работу, укладаў у яе ўвесь свой талент і душу. Ён быў аўтарам тэксту звароту, з якім самы першы раз выйшла да слухача 20 мая 1954 года беларуская рэдакцыя радыё "Вызваленьне", цяперашняя "Свабода". Называўся ён "Азімут сэрца".



Ганна Ігнатаўна Васько (Арцішэўская), самая малодшая з сям'і Ігната Арцішэўскага, жыве ў Маладзечне.

Фота з асабістага архіва Алеся РАТКЕВІЧА.

### "Смерць і салаўі"

Пётра Сыч "меў багатую, чуллівую натуру, быў усебакова адораны. Быў ён і пісьменнікам, і публіцыстам, і паэтам, і мастаком, і маляром – з задаткамі да скульптуры. Жыццёвыя нягоды білі моцна нашага Петруся. Дзесьці ў глыбіні душы ён да канца сваіх дзён насіў крыўду на свой жыццёвы лёс". Лёс, які разлучыў яго назаўсёды з самымі блізкімі і роднымі яму людзьмі, з Радзімай, за якую ваяваў, праліваў кроў і цудам застаўся жывым.

Пра пеpажытае пад Монтэ Касіна Пётра Сыч наважыўся распавесці толькі напрыканцы жыцця, у кнізе "Смерць і салаўі".

Нарыс Пётры Сыча "Смерць і салаўі" прысвечаны адной з вызначальных стратэгічных аперацый Другой сусветнай вайны – бітве пад Монтэ Касіна ў студзені-маі 1944 года.

У Беларусі, як і ўвогуле ў савецкай гістарыяграфіі мінулай вайны, бітва пад Монтэ Касіна замоўчвалася. Так, напрыклад, у артыкуле БелСЭ "Другая сусветная вайна" (т. 4, стар. 278-281) падзеі пад Монтэ Касіна нават не згадваюцца. А між тым, супраць фашыстаў там ваявалі тысячы беларусаў – салдатаў і афіцэраў Другога корпуса генерала Андэрса.

Не вярнуўся на Радзіму Пётра Сыч толькі таму, што цудоўна ведаў, што яго чакае. Усе так званыя "ворагі народа", якія патрапілі з бальшавіцкага лагернага "раю" ў корпус генерала Андэрса і пасля перамогі вярнуліся на Радзіму, зноў апынуліся ў сталінскіх лагерах. Проста неабходна ўзгадаць хоць некалькі прозвішчаў нашых землякоў, якія атрымалі бальшавіцкую "ўзнагароду" за ўдзел у мясарубцы Монта Касіна ў 1944 годзе.

Вось іх імёны:

1). Брацук А.С. – 1912 г.н., вёска Андрэйкі, Мядзельскі р-н. Прысуд: 9 лютага 1950 года, 10 год лагера.

2). Касцюк С.І. – 1900 г.н., вёска Матыкі, Крывіцкі р-н. Прысуд: 20 верасня 1950 года, 10 год лагера.

3). Дзіковіч І.С.– 1882 г.н., вёска Чаромушкі, Пастаўскі р-н. Прысуд: 14 кастрычніка 1950 года, расстрэл заменены на 25 год лагера.

4). Жамойдзін І.І. – 1915 г.н., вёска Узбалаць-3, Валожынскі р-н. Прысуд: 8 снежня 1950 года,10 год лагера.

### Лёс сям'і Пётры Сыча

Памёр Пётра Сыч у Германіі 20 чэрвеня 1964 году, так і не даведаўшыся, праз якія бальшавіцкія жорны прыйшлося прайсці і яго сямейству.

А яго сям'і на змену ваенным жахам прыйшлі пасляваенныя, рэпрэсіўныя. НКВД не давала спакою нават і ноччу. Сачылі за кожным крокам жонкі Пётры Ганны і дачкі Броні. Бо лічылі, што Пётра Сыч патаемна вярнуўся з-за мяжы і як былы афіцэр Войска Польскага ўваходзіць у склад антыбальшавіцкага падполля, якое ў пасляваенны час вельмі актыўна дзейнічала ў нашым рэгіёне.

Але гэты супраціў ужо ў 50-х гадах быў цалкам зламаны савецкай уладай, а арганізатар яго Янка Філістовіч з Рэдзькавічаў Вілейскага раёна і кіраўнік моладзевай антыбальшавіцкай арганізацыі Расціслаў Лапіцкі з Касуты Вілейскага раёна былі расстраляныя.

Не знайшоўшы сярод падпольшчыкаў Пётры Сыча, НКВД пачало яго сям'ю наогул тэрарызаваць. Прымушалі пад дыктоўку пісаць лісты, каб Пётра варочаўся на Радзіму. Ужо дарослую Броню і маці вывозілі за вёску, фатаграфавалі і ўсяляк запалохвалі, нагадвалі, што бываюць такія выпадкі, што людзі проста знікаюць бясследна.

Прымушалі пастаянна пісаць бацьку толькі пра добрае ў лістах, кожны раз класці фотаздымкі і маліць яго, каб той прыехаў хоць у адпачынак.

Скончыліся праследаванні сям'і Пётры Сыча толькі ўжо пасля яго смерці і рэабілітацыі. Нават цяжка сабе ўявіць, колькі варожасці і якая была смага помсты ў бальшавікоў да гэтага героя вайны. І не толькі да яго аднаго?! Вось гэта і ёсць сапраўдны і ўсім ужо вядомы крывавы твар сталінізму, які забраў мільёны жыццяў.

Мне здаецца, што ўсё ж такі наступіць час і народ ушануе памяць сапраўдных патрыётаў сваёй Радзімы. Будуць пастаўленыя помнікі і названыя вуліцы ў гарадах і вёсках іх імёнамі. А цяпер, пакуль ёсць магчымасць, трэба прыкладаць усе намаганні, каб памяць пра мінулае зберагчы і перадаць яе нашчадкам.

**Алесь РАТКЕВІЧ, Чысць.**

**Заканчэнне будзе.**

КАЛЯНДАР

**4 ліпеня.** 110 гадоў з дня нараджэння Анатоля Альшэўскага (парт. псеўд. Юрка Пружанскі, 1904 – 1937), дзеяча рэвалюцыйнага руху Заходняй Беларусі, публіцыста.

***

**1988 год.** У Вільні створаны беларускі клуб "Сябрына".

***

**5 ліпеня.** 45 гадоў назад (1969) адбылося ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнага комплексу "Хатынь".

***

**2001 год.** У Мінску пачаўся Трэці з'езд беларусаў свету. Доўжыўся 5 і 6 ліпеня.

***

**6 ліпеня.** 105 гадоў з дня нараджэння Сяргея Грыцаўца (1909 – 1939), лётчыка, першага двойчы Героя Савецкага Саюза.

***

**7 ліпеня.** 150 гадоў таму (1864) у Маладзечне адчынілася настаўніцкая семінарыя.

***

**1882 год.** У фальварку Вязынка, цяпер Маладзечанскі раён, нарадзіўся Янка Купала, народны паэт Беларусі.

***

**1572 год.** Памёр Жыгімонт ІІ Аўгуст, вялікі князь літоўскі і кароль польскі (1548 – 1572).

***

**8 ліпеня.** 55 гадоў з часу заснавання (1959) у Маладзечне Мінскага абласнога краязнаўчага музея (адкрыты 26 красавіка 1964 г.).

***

**1993 год.** У Мінску пачаўся Першы з'езд беларусаў свету. Доўжыўся 8-10 ліпеня.

***

**9 ліпеня.** 110 гадоў з дня нараджэння Цімафея Гарбунова (1904 – 1969), дзяржаўнага і грамадскага дзеяча, гісторыка, акадэміка Акадэміі навук Беларусі.

***

**10 ліпеня.** 20 гадоў з часу абрання (1994) Аляксандра Лукашэнкі першым Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

***

1972 год. У Вязынцы адкрыўся Купалаўскі мемарыяльны запаведнік.

***

**1900 год.** Нарадзіўся мастак Пётра Сергіевіч, беларускі жывапісец і графік, мастак-манументаліст. Заслужаны дзеяч мастацтваў Літвы (1965). Выканаў манументальныя размалёўкі ў касцёлах у Солах (1934), Смаргоні (1936). Сцэнапіс у Солах стаў самым вялікім цыклам мастака, манументальнымі размалёўкамі быў упрыгожаны ўвесь касцёл – столь і сцэны. Але размалёўкі былі перапісаны ў час чарговых рамонтаў храмаў. У Смаргоні сцэнапіс не захаваўся.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**



Фота Наталлі ТУР.

Канстанцін Міхайлавіч цяпер жыве адзін, дачка наведвае яго кожны дзень. Для здымка ветэран апрануў касцюм з баявымі ўзнагародамі, у якім, канешне ж, пойдзе і на святкаванне 3 ліпеня, і абавязкова на Дзень Перамогі.

ДА ДНЯ ВЫЗВАЛЕННЯ БЕЛАРУСІ

# Канстанцін Капсунаў – вызваліцель Маладзечна

*Заканчэнне. Пачатак на 1-й старонцы.*

**– Як вы ў армію трапілі?**

– Вось так з адступленнем немцаў і трапіў. Нас, жыхароў вёскі, немцы перад сабой як жывы шчыт гналі. А я заўважыў, што суседка наша ў кусты нырнула, ну і я, нядоўга думаючы, за ёй. Выйшаў да нашых салдатаў. Папрасіўся дабравольцам, мяне прынялі танкавым кулямётчыкам. Мне ж тады ўжо 18 год споўнілася.

**– Ёсць такі верш: хто кажа, што на вайне не страшна, той нічога пра вайну не ведае. Было страшна?**

– Не тое слова. Нагледзеўся ўсяго. І бачыў, як некаторыя не вытрымлівалі і збягалі з фронту, як іх за гэта расстрэльвалі свае ж. Бачыў, як пасля бою сядзеў салдат і ад кожнага яго ўздыху з грудной клеткі выцякала кроў. Гэта я цяпер ведаю, што трэба было зрабіць тугую павязку, каб спыніць кроў, а тады проста глядзелі і чакалі санітараў. Шмат чаго іншыя байцы расказвалі, але камандзіры такія размовы спынялі. "Не трэба сеяць паніку!"– гаварылі яны. Ведаеце, якая тады моцная ідэалогія была? Так і беглі ў атаку з крыкамі: "За Радзіму! За Сталіна!". Я праз гэтую ідэалогію і атрымаў сваё другое цяжкае раненне.

**– Вы былі паранены некалькі разоў?**

– Так. Але бывала, што і шчасціла не раз. Аднойчы быў выпадак, калі я ляжаў у акопе, а акурат нада мной разарвалася міна. Тады ўсе падумалі, што мне канец. А я зрабіў сабе норку пад зямлёй, там ляжаў. Чую нешта заварушылася зверху, ну, вылез паглядзець. А камандзір мне здзіўлена так: "Гляньце, ён яшчэ і вылазіць!"

### Было страшна так, што мы грызлі зямлю

А вось выпадак, які, як я кажу, адбыўся праз ідэалогію. Мы знаходзіліся ва Усходняй Прусіі. Туды прывезлі нашы "Кацюшы", ну, мы, раты паразяўляўшы, хадзілі на іх глядзець. І вось 15 жніўня 1944 года пачалося наступленне. Мы ляжалі ў акопах, а гэтыя самыя "Кацюшы" білі праз нас агнём. Страшна было так, што мы аж зямлю грызлі. А потым далі загад нам бегчы ў атаку. І амаль адразу непадалёк ад мяне разарвалася першая міна. Мяне тады аглушыла, кантузіла. І вось жа цяпер думаю, трэба было ляжаць ціхенька. Не, дурань, ледзьве падняўся, але бег толькі наперад, разам з усімі. Тады другая міна выбухнула за некалькі крокаў ад мяне, аскепкамі разарвала мне ўвесь правы бок. Нават цяпер у тазе і пад сківіцай сядзяць. Так і не дасталі тады гэтыя аскепкі. Лячыўся я тры з паловай месяцы. Потым мяне прызналі нестраявым.

**– Пра перамогу як даведаліся?**

– Яшчэ калі мы былі ў Празе, сталі хадзіць сярод ваенных чуткі, што хутка будзе мір. Наш радыст злавіў сігнал, што будзе мір. Але тады ў гэта не верылася. Тут такія баі ішлі, пра які мір гаворка? А пра перамогу даведаліся на дарозе ў Аўстрыю. Ну, гэтай радасці не перадаць словамі.

**– Для вас перамога самае важнае свята?**

– Так. Раней, калі маладзейшы быў, добра так адзначалі.

### Экзамен здаваў з кавалачкам хлеба

**– Цяпер, праз 70 гадоў, ці засталіся вашы баявыя таварышы, з кім вы падтрымліваеце зносіны?**

– Не, цяпер нікога не засталося. Я пасля вайны сябраваў з адным хлопцам. Мы з ім разам у Брандэнбургу былі, куды мяне пасля ранення адправілі машыны рамантаваць. Ён аднойчы ўвечары пабег да немцаў, а назад не вярнуўся. Назаўтра прыйшлі прадстаўнікі асабовага аддзела, спыталіся, дзе мой сябар. Я адказаў, што ў немцаў. Потым, калі яго сын пытаўся ў мяне, як бацька загінуў, я не прызнаўся. Проста сказаў, што ён знік. Пра такое нельга было гаварыць.

**– А як свой лёс з Маладзечнам звязалі?**

– Паля вайны паступіў я вучыцца ў ветэрынарны тэхнікум, потым у ветэрынарную акадэмію ў Маскве. Цікава было вучыцца. Экзамены ў мяне прымаў сам акадэмік Папоў. Ён прыносіў з сабой на экзамен кавалачак хлеба і гаварыў студэнтам: "Ешце! І расказвайце, што адбываецца ў вас у арганізме". Спачатку пра рэфлексы, потым пра тое, куды хлеб з рота трапляе, і гэтак далей. Адтуль мяне размеркавалі на работу ў Маладзечна. Спачатку на птушкафабрыцы індыкоў лячыў, потым працаваў галоўным ветдоктарам у Відзеўшчыне. Ажаніўся тут. Жонка доктарам на "хуткай дапамозе" працавала. 40 гадоў жыцці ратавала, а сваю не выратавала. Раптоўна памерла, калі ішла ў агарод. Дваіх дзяцей маю: сына і дачку.

**– Як 3 ліпеня адзначаць будзеце?**

– Канешне, хачу на плошчу трапіць, на парад. Калі ўнучка на машыне падвязе, абавязкова паеду. А потым буду імкнуцца дажыць да 70-годдзя Перамогі, толькі пра гэта зараз мару. А як яно будзе, хто ведае? Прыйдзе вось страшная цётка з касой і не дзенешся ад яе нікуды. Але дзякуй богу, дажыў да сёння, няма чаго жыццё гнявіць.



**Наталля ТУР.**
E-mail: natali.turenok@gmail.com

ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

# Мемарыял у Борках аднаўляецца

**Напярэдадні святкавання 70-й гадавіны вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў хочацца яшчэ раз нагадаць аб тым, як ушаноўваецца памяць загінулых жыхароў былой вёскі Боркі, што на Вілейшчыне.**

Вёска разам з яе жыхарамі была знішчаная фашысцкімі карнікамі 4 мая 1943 года. Пасля вайны яна так і не адбудавалася. Амаль усе яе жыхары жывымі згарэлі ў страшэнным полымі.

У жывых цудам засталася талькі адзіная жыхарка Борак, **Фаіна Сяргееўна Анасовіч** (Кучко). Ёй, сведцы трагедыі, было 12 годзікаў. Цяпер жыве ў Рабуні ля Вілейкі. У 60-х гадах у Борках мясцовы калгас на месцы трагедыі ўсталяваў помнік-стэлу з мемарыяльнай дошкай. Па застрэленаму і асобна пахаванаму жыхару Борак **Вікенцію Сашкевічу** на яго магілцы паставілі агароджу.

Тут у савецкія часы праводзіліся мітынгі, прысвечаныя трагічным падзеям. На іх пастаянна прымала ўдзел і Фаіна Сяргееўна, якая расказвала пра свае аднавяскоўцаў, як у той чорны дзень абарваліся іх жыцці.

Пасля распаду Савецкага Саюза мемарыял пачаў прыходзіць у заняпад. У 90-х гадах уся тэрыторыя Борак нейкім чынам адышла пад Вілейскі лясгас. І ўжо неўзабаве на былых боркаўскіх падворках лясгас правёў лесапасадку. Але на гэтым святым месцы, на разбураных падмурках пасаджаны лес так і не прыжыўся. Гэта тэрыторыя зарасла пустазеллем і кустоўем.

Пакінуты пад мемарыял невялічкі кавалачак зямлі пазарастаў хмызняком і драбналессем. Помнік-стэла па загінулых, апынуўшыся сярод гэтых зараснікаў, пачаў руйнавацца паскоранымі тэмпамі. Вясной 2011 года помнік, якога было вельмі складана адшукаць у гушчары, знаходзіўся ўжо ў крытычным стане.

Што казаць, калі нават пясчаная дарога да яго наогул адсутнічала ўжо на працягу апошніх двух дзесяцігоддзяў (лесанарыхтоўшчыкі аб гэтым "паклапаціліся").

**Пра крытычны стан мемарыяла неаднаразова пісала "Рэгіянальная газета". І толькі дзякуючы ёй і своечасовай змене мясцовай улады яму паступова пачала надавацца ўвага.**

Адраджэнне мемарыяла "Боркі" пачалося восенню 2011 года з нядзельніка, арганізаванага мясцовай уладай сумесна з грамадствам. На нядзельніку прысутнічала з паўсотні ўдзельнікаў. Мясцовая ўлада, прадстаўнікі Ільянскага лясніцтва і школы, шмат мясцовых жыхароў і тых, хто прыехаў з рэгіёна, з мясцовай сельгаспадаркі, сям'я Фаіны Анасовіч, калектыў "Рэгіянальнай газеты"...

Рашэннем Хаценчыцкага сельсавета адной з вуліц у Лукаўцы нададзена назва "Любчанска-Боркаўская". Грамадствам бязвыплатна цалкам адрэстаўраваны галоўны помнік-стэла па загінулых боркаўцах. Усімі неабходнымі будматэрыяламі рэстаўратараў забяспечыла чысцінская "Забудова". Прадпрымальнікі **Паплаўскія** з Краснага добраахвотна і бясплатна вырабілі новую гранітную пліту на помнік з прозвішчамі загінулых.

**Сёлета 28 чэрвеня, падчас правядзення чарговага суботніка, дзякуючы клопатам Хаценчыцкага сельсавета, на мемарыяле "Боркі" былі ўсталяваныя дзве гранітныя пліты з вершаванымі радкамі пра лёс загінулых.**

Сумесныя суботнікі ўлады і грамадства тут сталі традыцыйнымі. Вось і на гэты раз сабраліся неабыякавыя людзі, каб падрыхтаваць мемарыял да дня 70-годдзя вызвалення. На суботніку прысутнічалі: старшыня Хаценчыцкага сельсавета **Святлана Валовік**, дэпутат райсавета **Таццяна Косцік**, мясцовы 86-гадовы пенсіянер **Уладзімір Барысевіч**, інвалід першай групы **Анатоль Шахрай**. Прыехалі дочкі Фаіны Сяргееўны **Наталля Мікалаеўна** і **Таццяна Мікалаеўна**, а таксама зяць **Іван** і аўтар гэтых радкоў.

Мемарыял прыняў належны стан, і сюды ўжо можна не саромеючыся запрашаць гасцей. Буду спадзявацца, што неўзабаве не толькі праз гэты мемарыял, але і праз іншыя шматлікія нашы гістарычныя аб'екты, якія носяць не толькі пазнавальнае, але і навуковае значэнне, праляжа турыстычны маршрут.

Хочацца ў чарговы раз падзякаваць тым, хто, не шкадуючы свайго вольнага часу і сродкаў, зрабіў і робіць свой пэўны ўнёсак у гэту высакародную справу.

Упэўнены, што работы на мемарыяле "БОРКІ" будуць працягвацца і далей. На чарзе вяртанне тэрыторыі былой вёскі ў склад мемарыяла.

**Алесь РАТКЕВІЧ**, Чысць.

ФОТАМОМАНТ

# Рынак апусцеў праз сертыфікаты якасці



Фота Наталлі ТУР.

Маладзечанскі рынак райспажыўтаварыства ў аўторак, 1 ліпеня. Ад гэтага дня тавары мусяць абавязкова мець сертыфікаты якасці. На думку прадпрымальнікаў, ім нявыгадна самім браць неабходныя ў межах Мытнага саюза дакументы на прадукцыю. Амаль усе павільёны на рынку ў гэты дзень былі зачыненыя.

ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

## Хочам пераехаць у вёску, але не знаходзім участак

Да вас звяртаецца маладая сям'я, якая жыве ў Маладзечне. Мы з мужам працуем, выхоўваем маленькую дачку.

Для нас праблема жылля стаіць вельмі востра. Жывём разам з бацькамі. Ужо шмат год стаім на чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў. Сказалі, што давядзецца чакаць яшчэ 10-15 год.

Мы вырашылі пераехаць у вёску. Выбралі тую, што нам спадабалася. У сельвыканкаме адказалі, што свабодныя ўчасткі ёсць. Мы сабралі дакументы і паехалі выбіраць месца для будучага дома.

Паказалі некалькі ўчасткаў. Але ніводны нам не падыходзіць пад будоўлю. Адзін затоплены, іншы – са старым фундаментам. Гэтыя ўчасткі так і стаяць некалькі год.

Мы паспрабавалі атрымаць новыя ўчасткі. Адказалі, што новыя выдзяляюць пасля таго, як размяркуюць цяперашнія.

Як можна прыцягнуць маладых спецыялістаў у вёскі, калі нават пры нашым вялізным жаданні мы не можам там пасяліцца.

Падчас афармлення дакументаў я бачыў, што яшчэ некалькі маладых сямей былі ў такой жа сітуацыі, як і мы.

Мы ж нічога не патрабуем – дом ці кватэру. Мы толькі просім даць нам кавалак зямлі, а далей зробім усё сваімі рукамі.

Просім дапамагчы атрымаць участак для будоўлі аднакватэрных блакіраваных дамоў.

Чытач "РГ", Маладзечна.



Фота railtonya.com.

Маладая сям'я марыць пабудаваць жыллё ў вёсцы, але на сваім шляху да пабудовы дома яны сустракаюць шмат перашкод.

ЖЫЛЛЁ

## Участкі пад будоўлю можна выбраць толькі з пераліку

**МАЛАДЗЕЧНА. Калі жыхары хочуць іншы ўчастак, яны могуць ініцыяваць, каб яго ўключылі ў спіс.**

Пра тое, як атрымаць зямельны ўчастак, распавядае галоўны спецыяліст землеўпарадкавальнай службы райвыканкама **Сяргей Пайлак**:

– Зямельныя ўчасткі, на якіх можна будаваць жыллё, заносяць у адмысловы пералік, згодна з рашэннем сельвыканкама. Спісы ўчасткаў мы вывешваем на афіцыйным сайце райвыканкама. І атрымаць участак можна толькі сярод тых, якія ўключаныя ў пералік. Калі жыхары хочуць атрымаць іншы ўчастак, яны могуць стаць ініцыятарамі, каб яго ўключылі. Але гэта не гарантыя, што вы яго атрымаеце. Па-першае, ён павінен прайсці экспертызу. Магчыма, спецыялісты не прызнаюць яго прыдатным. Па-другое, на зямельныя ўчасткі ёсць чарга – спіс ахвотных атрымаць участак.

Спачатку сельвыканкам рэалізуе ўчасткі, якія ўжо ёсць у спісе. А новыя прапануе тым, хто першы стаіць у чарзе.

Зоя ХРУЦКАЯ.

НЕРУХОМАСЦЬ

## Першы арэндны дом на Міншчыне адкрылі ў Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА. Яго здалі ў адзін дзень з новым домам для адсялення з аварыйнага жылля ў панядзелак, 30 чэрвеня.**

Засяленне можа пачацца ў ліпені.

Арэндны дом месціцца ў Залінейным раёне, на завулку Сухім. Ён мае 80 кватэр на адзін ці два пакоі.

Кватэры падрыхтаваныя да жыцця: стаіць сантэхніка, газавая пліта, на сценах – шпалеры.

– Мы спраектавалі і пабудавалі арэндны дом, а цяпер перадаём яго жыллёва-камунальнай гаспадарцы, – гаворыць дырэктар упраўлення капітальнага будаўніцтва (УКБ) Маладзечанскага раёна **Аляксей Нагіх**. УКБ быў заказчыкам гэтага праекта.

Яшчэ адзін, сацыяльны, дом на 60 кватэр прадугледжаны для таго, каб адсяляць жыхароў дамоў, якія варта аддаць пад знос.

Пра тое, як атрымаць магчымасць жыць у арэндным доме, чытайце ў адным з наступных нумароў "РГ".

Зоя ХРУЦКАЯ.

ПРАВА

## Як падарыць пасля смерці

**Жыхары часта задаюць адны і тыя ж пытанні пра тое, як распарадзіцца сваёй маёмасцю. На самыя частыя з іх мы сёння адкажам.**

**– Хачу падарыць унуку кватэру пасля смерці. Што для гэтага трэба?**

– Распараджэнне маёмасцю на выпадак смерці – гэта завяшчанне. Аформіўшы завяшчанне, вы будзеце ўласнікам кватэры да смерці.

Інакш адбудзецца, калі вы аформіце дагавор дарэння. Паводле яго, адзін бок (бабуля) дорыць уласнасць іншаму боку (унуку). Ад гэтага моманту ўласнікам кватэры стане ўнук.

Такія правілы рэгулюе частка 3 артыкула 543 Грамадзянскага кодэкса.

**– Майму бацьку 83 гады. Ён хоча падарыць мне дом. Ці абавязкова перад засведчаннем дагавора праходзіць экспертызу, якая пацвярджае здзелказдольнасць бацькі?**

– Праводзіць псіхіятрычную і псіхолага-псіхіятрычную экспертызу тых, хто звяртаецца да натарыуса, – добраахвотная справа.

Але яна можа быць карыснай. Калі ўзнікне судовая спрэчка, высновы экспертызы будзе дадатковым доказам таго, што ваш бацька падчас заключэння дагавора разумеў значэнне сваіх дзеянняў і мог імі кіраваць.

**– У мяне памерла маці. Да дня смерці яна была прапісаная ў Маладзечне. Ведаю, што ў яе былі грашовыя ўклады, але не ведаю, у якім банку. Няўжо мне трэба хадзіць па ўсіх банках і высвятляць, ці не там яе ўклады?**

– Паводле вашай просьбы натарыус можа запатрабаваць звесткі з тых банкаў, якія вы ўкажаце.

Для гэтага трэба звярнуцца да натарыуса па месцы адкрыцця спадчыны. Калі яна жыла ў горадзе – значыць, у натарыяльную кантору Маладзечанскага раёна №1 Мінскай вобласці.

Зрабіць гэта трэба да таго, як міне шэсць месяцаў пасля смерці вашай маці.

**Натарыяльная кантора месціцца па адрасе: Маладзечна, вуліца Багдана Хмяльніцкага, 22.**

**– У 2013 годзе я падарыла сыну жылы дом. Сын памёр. Ці магу я скасаваць дагавор і забраць дом назад?**

– У дагаворы дарэння можа быць абумоўленае права гаспадара адмяніць дарэнне ў выпадку, калі ён перажыве таго, каму дорыць.

Калі гэтая ўмова прама агавораная ў дагаворы, вы можаце скасаваць дагавор. Для гэтага трэба звярнуцца ў натарыяльную кантору.

Наталля ЛЯШЧЫНСКАЯ, натарыус Мінскай абласной натарыяльнай акругі.

ФУТБОЛ

# Скандал на футболе: непрыстойны жэст гульца і бойка трэнераў

**СМАРГОНЬ. У 12-м туры чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе "Смаргонь" 28 чэрвеня гуляла ў гасцях з "Лідай".**

Смаргонцы выйгралі 4:2. Яны выйшлі наперад на сёмай хвіліне – гол забіў **Аляксандр Сямёнаў**. Праз паўгадзіны вызначыўся **Павел Баскакаў**. Потым гаспадары здолелі аднавіць раўнавагу. Аднак на 69-й хвіліне "Смаргонь" наперад вывеў **Мікалай Рындзюк**, а замацаваў перамогу напрыканцы матча **Яўген Калінін**.

Матч не абышоўся без скандалаў. Адразу гулец "Ліды" **Аляксандр Татарнікаў** быў выдалены за святкаванне гола – пасля ўзяцця варот ён пачаў паказваць непрыстойныя жэсты.

І гэта яшчэ не ўсё. "Пасля заканчэння матча трэнер каманды "Ліда" **Максім Лычоў** павёў сябе неадэкватна, штурхнуў трэнера каманды "Смаргонь" **Паўла Бацюту** і абражаў нецэнзурнай лаянкай судзейскую брыгаду", такую заўвагу зрабіў суддзя матча.

Вось што ў паслематчавым каментары сказаў трэнер "Ліды" Максім Лычоў (паведамляе fclida.by):

– Гульню зламалі суддзі. Нам удалося выраўняць гульню, зраўняць лік, але потым проста выдумляюць выдаленне Татарнікава. Суддзя падыходзіць да трэнера гасцей, яны раяцца і выдаляюць нашага форварда. Я не ведаю, як гэта каментаваць, як і непрызначаны пеналці ў першым тайме... Такое судзейства было ў 80-90-х гадах, калі мы гулялі ў гасцях...

Галоўны трэнер "Смаргоні" Павел Бацюта пракаментаваў гульню так:

– Пасля няўдач у мінулых гульнях падыходзілі да гэтай сустрэчы з грузам адказнасці. Нам было неабходна рэабілітавацца за мінулыя няўдачы, забілі чатыры мячы і перамаглі па праве. Прапусцілі два мячы, дазволілі сапернiку зраўняць лік. У тых забітых галах у нас не вельмі добра згуляла абарона. Пасля мы перабудаваліся, зрабілі акцэнт на атаку, што і дало плён. Задаволены тым, што задуманае пасля было паказана і на полі. Выдаленне **Татарнікава**? Гэта пытанне лепш адрасаваць суддзі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота prosport-ru.tsn.ua.

**"Атрымайце ўсе!". Такія жэсты лічацца непрыстойнымі і мусяць цягнуць адказнасць. У якасці ілюстрацыі выкарыстаны фотаздымак футбаліста зборнай Украіны Дзяніса Гармаша ў адной з гульняў. Аналагічнае здарылася і ў Смаргоні.**

СПОРТ

# Хакеісты трэніруюцца ў Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА. Першая трэніроўка хакейнай каманды "Дынама-Маладзечна" адбылася 25 чэрвеня. Перад ёй галоўны трэнер каманды Дзмітры Краўчанка адказаў на некалькі пытанняў:**

**– На зборы 38 хакеістаў. Шмат хто на праглядавых кантрактах. На гэтым этапе вы ім задаволеныя?**

– Я пакуль не магу быць задаволены або незадаволены. З многімі гульцамі я яшчэ незнаёмы. З іншага боку, шмат хто ўжо гуляў у розных клубах Экстралігі. Думаю, знойдуцца тыя, хто здольны стаць лідарам нашай каманды.

Я вельмі задаволены, што з намі **Ян Шаляпнёў**. На яго будзе ўскладзеная вялікая адказнасць. Справіцца ён з ёй? Я ўпэўнены, што справіцца.

**– Які план падрыхтоўкі "Дынама-Маладзечна" да сезона?**

– Ад 25 да 29 чэрвеня працуем тут, у Маладзечне. Ад 30 чэрвеня на працягу тыдня праводзім збор у Мінску. Пасля гэтага вяртаемся дадому і прыступаем да яшчэ больш узмоцненай працы.

**– З інфраструктурай мясцовай арэны паспелі пазнаёміцца?**

– Тут надзвычайныя ўмовы. Ёсць адкрытыя пляцоўкі, гульнявая зала, добры парк, ёсць дзе праводзіць аднаўленчыя працэдуры. Усё залежыць ад нас.

**Паводле hcdinamo.by**

НАВІНЫ

## Мядзел прыняў турыстаў з Беларусі і Расіі

**МЯДЗЕЛ.** Ад 25 чэрвеня да 1 ліпеня на Мядзельшчыне праходзіў турыстычны злёт навучэнцаў Беларусі і Расіі.

У злёце прынялі ўдзел больш за 600 чалавек ва ўзросце 14-17 гадоў – каманды Мінска, усіх абласцей Беларусі і 34 рэгіёнаў Расіі.

Адразу было ўрачыстае шэсце камандаў – самая далёкая дабралася аж з Прыморскага краю.

Мікіта і Даша прыехалі з Удмурціі – у Беларусі яны ўпершыню.

**– Што чакаеце ад злёту?**

– Знайсці пабольш сяброў.

**– А на перамогу ці разлічваеце?**

– Складана, але можна.

На ўрачыстым адкрыцці былі прамовы афіцыйных асоб і канцэрт. Выступалі артысты з Міншчыны – у тым ліку Вілейкі, Маладзечна. Але ці не найбольш апладысментаў дасталася ветэрану вайны з Мядзела **Міхаілу Гардону**: ён прачытаў урывак з паэмы "Васіль Цёркін".

І калі адразу ля сталоў з сувенірамі людзей было няшмат, то пасля заканчэння ўрачыстасці іх апанавалі юныя расіяне. Закупіўся нарачанскімі сувенірамі Арцём з Разанскай вобласці:

– Набыў на памяць шкатулкі, іншыя сувеніры. У вас прыгожа, прырода падобная да нашай, але ў вас чысцей.

**– Як рыхтаваліся да злёту?**

– Сур'ёзна. Гэта не ў сябе, у Разанскай вобласці удзельнічаць – у іншую краіну едзем. Тут усё больш складана.

Дастаткова сур'ёзна рыхтаваліся да злёту і дзеці з горада Энгельс Саратаўскай вобласці, даводзіць дырэктар мясцовай станцыі юных турыстаў **Аляксандр Пятрушоў:**

– Мы мелі поспехі на расійскіх спаборніцтвах у залах сярод канкурэнтаў. Але тут беларускія правілы: гатовы выйграць, і прайграць – падзмагаемся. Уражанні вельмі прыемныя ў дзяцей. Раней у Беларусі толькі адзін чалавек быў – мая дачка.

Некаторыя з беларусаў удзельнічаюць у турзлёце Беларусі і Расіі не першы раз. Расказалі, што і потым падтрымліваюць кантакты з расіянамі праз інтэрнэт. Лічаць, што на турзлёце нават не адчуваецца, што ўсе тут сапернікі.

Юныя турысты разбілі палатачны лагер на беразе возера Швакшты. Спаборнічалі яны ў асабовых і камандных спаборніцтвах па спартыўным арыентаванні і турысцка-прыкладным мнагаборстве ў тэхніцы горна-пешаходнага турызму на розныя дыстанцыі. Таксама былі конкурсы на прадстаўленне камандаў, турысцкай песні і газет, краязнаўцаў, на лепшае уладкаванне лагера.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## "Маладзечна-ДЮСШ-4" забівае 14 галоў

**МАЛАДЗЕЧНА.** Дзявятым турам завяршыўся першы круг чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе. "Маладзечна-ДЮСШ-4" 28 чэрвеня удосталь паздзекавалася з "Беразіно": матч завяршыўся з лікам 14:0. Ажно пяць галоў забіў Павел Майсяёнак. Ён з 14-цю мячамі выйшаў на другое месца ў спрэчцы бамбардзіраў чэмпіянату.

"Забудова-2007" дома прайграла камандзе "Жодзіна-2007" з лікам 3:6.

У групе "А" "Маладзечна-ДЮСШ-4" дзякуючы сваёй перамозе і асечцы "Барысава" выйшла на першае месца. "Забудова-2007" знаходзіцца на шостым.

## Сапернік зноў не даехаў у Вілейку

**ВІЛЕЙКА, ВАЛОЖЫН.** У нядзелю "Вілія" з Вілейкі павінна была сустрэцца з "Валожынам-2010". Але гульня не адбылася: валожынцы не з'явіліся на гульню і атрымалі тэхнічнае паражэнне 0:3.

За апошні час вілейчане ўжо другі раз атрымліваюць перамогу без гульні з-за няяўкі саперніка. У сёмым туры ў Вілейку не даехаў "Колас" з Чэрвеньскага раёна.

"Вілія" паднялася на адну прыступку вышэй – на пятае месца. "Валожын-2010" завяршыў першы круг на дзявятым месцы.

## Перамагла на рэспубліканскай спартакіядзе

**ВІЛЕЙКА.** Віляйчанка **Лізавета Шчарбакова** заняла чатыры прызавыя месцы на рэспубліканскай спартакіядзе па плаванні сярод школьнікаў. Спаборніцтвы праходзілі з 24 па 26 чэрвеня ў Лужасне на Віцебшчыне.

Ліза выступала ва ўзроставай групе 1999-2000 гадоў нараджэння. Яна была двойчы першай – на дыстанцыях 800 і 400 метраў вольным стылем і двойчы другой – на дыстанцыі 200 метраў вольным стылем і ў эстафеце.

– Ліза прынесла вялікую колькасць ачкоў для каманды Мінскай вобласці, – кажа дырэктар СДЮШАР Вілейскага райвыканкама **Сяргей Гатаулін**. – Каманда Мінскай вобласці ў выніку заняла другое месца з сямі камандаў.

Трэніруюць Лізу **Яўгенія Асмалоўская** і **Галіна Перапечына**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Камент-эксперт Rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### "Маладзечна-ДЮСШ-4" забівае 14 галоў і выходзіць у лідары

Маладцы, хлопцы! Чакаем у наступным у другой лізе. *Саша.*

### Вілейка. Маладзечанец збіў хлопца за доўгія валасы

Тры гады турмы трэба даваць. *Vad.*

### Фотамомант: банкамат вышэй за чалавека

"Банкамат вышэй за чалавека"… А мне здаецца, гэта жанчына ніжэй за банкамат! Банкаматаўшчыкі ўлічылі тут усё, усталявалі банкамат вышэй, каб вялікім людзям не згінацца, бо адным астэахандроз гэта зрабіць не дае, а іншым пуза. А вось для маленькіх і кругленькіх прадугледзелі падстаўку ў выглядзе кветніцы. Чым не вынаходства?!! Падобных "рацыяналізатараў" у нас хапае, на вялікі жаль. *Алесь Раткевіч.*

### Сёння выйшаў 1000-ы нумар "Рэгіянальнай газеты"

Выдатная газета і, мяркую, калектыў супер (гл. фота). Вялікіх поспехаў і натхнення на самыя амбіцыйныя праекты!!! *Гудас.*

### Купіць тэлевізар – як згуляць у латарэю

Вельмі слушныя парады! *Chalavek.*

### Як я купляў тэлевізар

Наіўны чалавек! Перад тым як купляць тэлевізар, як і любую іншую тэхніку, трэба ведаць, чаго вы хочаце. УСЮ інфармацыю: параметры, характарыстыкі, апісанне, водгукі і г.д. без праблем можна знайсці ў інтэрнэце. У інтэрнэт-крамах танней, чым у звычайных. Але не ўсе яны дастаўляюць у Маладзечна, а калі і дастаўляюць, то не бясплатна. Мая спроба недзе месяц назад набыць тэлевізар праз інтэрнэт-крамы закончылася няўдала. У адной краме апаратар пачынаў прапаноўваць больш "простую" мадэль, у іншых не дастаўлялі на чыгуначны вакзал (адгаворкі: "кур'ер не зможа знайсці вас там", ці "панэль тэлевізара пры транспарціроўцы можа паламацца"), у трэціх, нязручны для мяне час дастаўкі (мне хацелася раніцай, а яны пачыналі развоз толькі пасля 14.00) і г.д. Так што не ўсё так проста. Думайце і рашайце – інтэрнэт Вам у дапамогу. *Chalavek.*



## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | 2 | | | |
| | | 9 | | | 4 | | | |
| | 4 | | | 1 | | 6 | | 3 |
| | 1 | | | | 3 | | 6 | 5 |
| | | 2 | | | | 9 | | |
| 8 | 7 | | 2 | | | | 4 | |
| 3 | | 8 | | 5 | | | 1 | |
| | | | 6 | | | 5 | | |
| | | | 4 | | | | | 6 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

## ● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ ПАЛАЧАН

Фота Наталлі ТУР.

Сям'я Маскалевічаў з Яхімоўшчыны. Свята без гасцінца на памяць – не свята.

## ● РЭПЕРТУАРЫ

### Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыйная камедыя "Як прыручыць дракона 2", 3D (ЗША, 2014, дзецям да 12 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
3, 4 ліпеня – у 13:00
5 ліпеня – у 16:00
6 ліпеня – у 13:30, 16:00
Кошт білета – 40 000 рублёў

Гістарычна-спартыўная драма "Ліга мары" (Францыя, 2014)
3 ліпеня – у 15:30
5 ліпеня – у 21:00
6 ліпеня – у 18:30
9 ліпеня – у 15:30
Кошт білета – 40 000 рублёў

Фантастычны баявік "Трансформеры: Эпоха знішчэння", 3D (ЗША, Кітай, 2014, дзецям да 12 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
3 ліпеня – у 18:00
4 ліпеня – у 18:00, 21:00
5 ліпеня – у 13:00, 18:00
6 ліпеня – у 21:00
7 ліпеня – у 18:00
8, 9 ліпеня – у 18:00, 21:00
Кошт білета – 55 000 рублёў

Фэнтэзі, баявік "Людзі Ікс: Дні мінулай будучыні", 3D (ЗША, 2014, дзецям да 12 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
3 ліпеня – у 21:00
4 ліпеня – у 15:30
7 ліпеня – у 21:00
Кошт білета – 45 000 - 55 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Братва з джунгляў**"(Кітай, Канада, 2012, дзецям да 12 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
3-6 ліпеня – у 15:00
Кошт білета – 15 000 рублёў

**Да 70-й гадавіны вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне**

Драма "**Збавенне**" (Расія, 2011)
3 ліпеня – у 17:00
Кошт білета – 25 000 рублёў

Анімацыя "**Джасцін і рыцары доблесці**" (Іспанія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
4-6 ліпеня – у 17:00
Кошт білета – 15 000 рублёў

Анімацыя "**Пушыстыя супраць Зубастых**" (Паўднёвая Карэя, ЗША, 2012, без узроставых абмежаванняў)
8, 9 ліпеня – у 16:00
Кошт білета – 15 000 рублёў

Меладрама, камедыя "**Цяпло нашых целаў**" (ЗША, Канада, 2013, дзецям да 12 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
3-6 ліпеня – у 19:30, 21:30
7-9 ліпеня – у 21:30
Кошт білета – 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

### Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Камедыя "**Мае афрыканскія прыгоды**" (Данія, дзецям да 12 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў або педагога).
4-6 ліпеня – у 18:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Меладрама "**На крылах**" (Расія, дзецям да 14 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў або педагога)
4-6 ліпеня – у 21:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Меладрама "**Госця**" (ЗША, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 год)
5, 6 ліпеня – у 21:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Анімацыя "**Братва з джунгляў**" (Індыя, дзецям да 12 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў або педагога).
5, 6 ліпеня – у 15:00
Кошт білета – 15 000 рублёў

Драма "**Дыяна: гісторыя кахання**" (Вялікабрытанія, дзецям да 12 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
9, 10 ліпеня – у 18:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Трылер "**Змрочныя нябёсы**" (ЗША, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 год).
9, 10 ліпеня – у 21:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Тэл.: **8(01771), 5-43-61, 5-60-95, 5-68-59**

## ● ГАРАСКОП (4-10 ЛІПЕНЯ)

**Авен.** Вас чакаюць перамены, можна сказаць, што вы самі іх цягнеце ў сваё жыццё. Усе важныя падзеі афармляйце юрыдычна, каб потым не ўзнікала ніякіх праблем.

**Цялец.** Ваша персона будзе прыцягваць да сябе павышаную ўвагу, вы можаце смела прымаць удзел у публічных выступленнях, яны прынясуць вам поспех і прызнанне.

**Блізняты.** Добры час для адпачынку, можна і на моры. Па магчымасці, арганізуйце гэта для сябе.

**Рак.** У вашым жыцці наступае перыяд, які называюць "Зацішша перад бурай". Актыўнасць дзеяння і думкі, здзяйсненні і перамены – гэта ўсё ў будучым. А цяпер... адпачывайце.

**Леў.** Цяпер вашы задумы будуць рэалізоўвацца так, як быццам у вас ёсць чарадзейная палачка. Аб такіх выніках сваёй дзейнасці вы нават і не марылі.

**Дзева.** Вас чакае эмацыйны пад'ём. Адносіны ў сям'і ўмацуюцца, вы станеце лепш разумець адно аднаго. У некаторых узнікне жаданне завесці дзяцей.

**Шалі.** Вас чакае энергетычны ўздым, які забяспечыць вам добры настрой. Час спрыяльны для рамонтных спраў і перамен.

**Скарпіён.** Трымайцеся далей ад авантур, звязаных з лёгкім узбагачэннем і азартнымі гульнямі. Не распыляйцеся па дробязях, рабіце тое, да чаго ляжыць ваша душа.

**Стралец.** Вы думаеце пра людзей, вырашаеце, хто з іх робіць добра, а хто не так. Але ацэньваеце па сваіх вагах, якія не з'яўляюцца эталоннымі. Такая пазіцыя можа выклікаць канфлікты, і вы будзеце не ў самай выйгрышнай пазіцыі, хоць і ўпэўненыя ў сваёй праўдзе. Прыслухоўвайцеся да сваёй інтуіцыі, яна вам шапне, дзе вы мелі рацыю, а дзе не.

**Казярог.** Вас чакае галавакружны і захапляльны перыяд.

**Вадалей.** Вы ў эпіцэнтры ўнутранай барацьбы: з аднаго боку вам неабходна абмяжоўваць сябе дзеля духоўнага развіцця, а з іншага – матэрыяльныя даброты і людскія радасці будуць вабіць вас з падвоенай сілай. Выбар за вамі.

**Рыбы.** У вас на гарызонце – перамены. Мяняецца не толькі ваша жыццё, колькі ваша адносіны да яго.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**


ISSN 1991-7155

Камент-эксперт
Rh.by
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**


# Рэгіянальная газета. Rh.by
Тэлетыдзень 27


## НАДВОР'Е

**5 ліпеня, субота**

| | Чацвер | | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +14 / +19 | | +12 / +21 | | +13 / +23 | | +16 / +24 | |
| | 745 | ↘ 4 | 745 | → 4 | 743 | ↗ 3 | 743 | ↑ 4 |
| Вільня | +11 / +19 | | +17 / +22 | | +15 / +24 | | +16 / +25 | |
| | 755 | → 4 | 755 | → 5 | 753 | ↑ 3 | 753 | ↑ 5 |

Тэмпература паветра / Воблачнасць ападкі / Ціск (мм рт. сл.) / Хуткасць ветра м/с / Усход, захад па Маладзечне

Усход 4.46
Захад 21.47
Даўжыня дня 17.01

Усход 13.39
Захад 0.18
Квадра 2




## ПРЫКМЕТЫ

- 6 ліпеня. Купалле. Калі на Іванаву ноч зорна, то будзе многа грыбоў. Вялікая раса – да ўраджаю агуркоў.
- 10 ліпеня – Самсон. "На Самсона дождж – сем тыдняў то ж".

## Чытайце праз тыдзень:

- **Топ-10, дзе можна адпачыць гэтым летам. Самыя лепшыя прапановы для жыхароў нашага рэгіёна.**


Фота Юліі АБРАМОВІЧ.

**Сёлетні выпускнік музкаледжа Ягор Шасцілоўскі.**

АДУКАЦЫЯ

# Дзевяць музыкантаў – з чырвонымі дыпломамі

**МАЛАДЗЕЧНА. 26 чэрвеня ў музычным каледжы адбыўся выпускны баль.**

Дзевяць навучэнцаў скончылі ўстанову з чырвоным дыпломам. У святочнай зале іх бацькі атрымалі падзячныя лісты.

Атмасфера радасці, удзячнасці захапіла не толькі бацькоў і навучэнцаў, але і настаўнікаў. Выпускнікі дарылі кветкі і нават лілі слёзы. Шчырыя словы падзякі гучалі са сцэны і, вядома, музычныя падарункі.

**Юлія АБРАМОВІЧ, школа маладога журналіста пры рэдакцыі "РГ".**



ДА 70-ГОДДЗЯ ПЕРАМОГІ

# Вайна ў радках беларускіх паэтаў

**Пімен Панчанка, "Даты":**

*Што даты? Гэта толькі вехі*
*Гісторыі.*
*А для салдат,*
*Чые навек закрыты вейкі,*
*Няма ўжо дат, ніякіх дат...*


Фота www.aiv.by.

**Рыгор Барадулін, "Бацьку":**

*А я... чакаў з усіх дарог*
*Цябе ў сорак чацвёртым...*
*летам*
*Калоны ні адной не мог*
*Я прапусціць з ахапкам*
*кветак...*


Фота knihi.by.

**Сяргей Законнікаў, "На партызанскім аэрадроме":**

*Прыйду сюды адзін*
*маўклівай ноччу,*
*Калі раскіне цемень*
*свой шацёр.*
*Нібыта мой сігнал чакае*
*лётчык,*
*Запальваю аж да нябёс*
*касцёр.*


Фота reporter.by.

**Кастусь Цыбульскі, "Галоўная":**

*Рабінавыя гронкі —*
*вугалькі,*
*Як нешта невыказнае,*
*святое...*
*Мо гэта слезы*
*з матчынай шчакі,*
*Апаленай*
*далёкаю вайною?*


Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**Ніл Гілевіч, "Ты кажаш, я не ведаю вайны":**

*Ты кажаш, я не ведаю вайны,*
*Што мне было тады гадоў*
*замала.*
*Чаму ж яна мае забрала сны?*
*На ўсё жыццё наперад*
*сны забрала?*


Фота pravapis.of.by.

**Яўгенія Янішчыц, "Салдаткі":**

*На сукнях адгарэла мурава...*
*Каторы раз паўторыць*
*цётка Ліда:*
*А мой, што пад Берлінам,*
*ў дваццаць два –*
*Няхай бы хоць вярнуўся*
*інвалідам.*


Фота be-x-old.wikipedia.org.

**Уладзімір Някляеў, "9 мая":**

*Прыйдзі да Вечнага агню*
*І моўчкі, стаўшы на калені,*
*Правер агнём свае сумленне*
*На праўду і на чысціню.*


Фота nv-online.info.


Рэгіянальная газета. Rh.by
Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 27 (1001) 4.07.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення паліграфічнай дзейнасці №02330/85 от 23.01.14 г. да 29.03.2019. Зак. 568 . Падпісана ў друк у 10.00 2.07.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.